УДК 821.162.1-1
ББК 84 (4 Бел)-5

Аўтар выказвае падзяку Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музэю літаратуры і мастацтва, а таксама спадарыне Людміле Дучыц за прадстаўленьне неапублікаваных раней графічных менскіх відарысаў мастака Мікалая Дучыца (1896-1980).

**Мінскевіч С.**

Мінскія/Менскія санэты. - Мн.: "Логвінаў", 2002. - 64 с.

ISBN 985-6701-02-3.

Кнігу складаюць два цыклі санэтаў - *Мінскія* і *Менскія,* падказаныя жыцьцём, гісторыяй беларускае сталіцы і знакамітымі *Крымскімі санэтамі* Адама Міцкевіча.

УДК 821.162.1-1
ББК 84 (4 Бел)-5

ISBN 985-6701-02-3

# ДУХ ГОРАДУ НІБЫ ЧАКАЎ ЗА РОГАМ…
## *(замест прадмовы)*

Часам здаецца, что Мінск не натхняе на паэзію пра сам Мінск. Мабыць таму, што ягоныя жыхары панаторканыя, як дробныя рэчы ў шуфлядкі, у сучасныя дамы-шафы, якія адваёўваюць прастору ва ўскраінаў. Стары Мінск малалюдны, таму і колькасць паэтаў на колькасць культурна каштоўных квадратных мэтраў вельмі малая. Ды вось аднойчы пасяліліся мы на Ракаўскай. Шуканы дух старога Мінска пачаў залятаць у форткі, рыпеў на дрэвах перад нашым вакном у байках крумкачоў, кружляў водарам сьвежай здобы са старой пякарні, вяртаўся штодня з адвечнасці ў містычных выявах: то катом заблукае ў кватэру рэінкарнаваная душа даўным памерлага мінчука, то конь з вазком праедзе па першым сьнезе – і гэта ў абсалютным цэнтры палоненага аўтамабілямі гораду! - то мужычок невядома скуль і невядома куды па старажытнай трасіроўцы вуліц цягне, бы плямісты і рагаты балёнік на нітачцы, карову, то нейкі празяблы небарака хрумсьціць за сьпінай гальлём на растопку паржавелых мінскіх пячурак, то габрэі, упрыгожаныя сэрпантынай пэйсікаў, пройдуць гурмой у кірунку Ямы. Зьявіцца і зьнікне. Новае бы старое, старое бы новае. Стары Мінск праз вакно на Ракаўскай пачаў ажываць. Шчымліва захацелася паэзіі. Паэзіі пра наш горад. Я запатрабавала рымаў першая. Перастала спаць а раньні. Ня сплю, а горад сьпіць, абурае сваёй старыкоўскасьцю. Нанізваю радкі моўчкі, каб нікога не абудзіць, нараджаючы нешта таленавітае:

*Мінск раніцай зусім яшчэ ня Мінск.*
*Ён сьпіць як пан,*
*І мётлы чэшуць вусы.*
*І выглядаюць агароджы як паркан,*
*Дзе не хапае пеўня і капусты...*

Проста ўцякаю з хаты ў пошуках словаў, бо душыць паэзія. Бадзяюся па Старым прадмесьці. Пачынаю кахаць будынкі дотыкамі, хачу паляжаць на вуліцы ў стане гістарычна матываванай кунегі.

*Мінск пахне пылам, бы стары пакой,*
*Дзе ўжо даўно ня роблена парадку.*
*Прцспэкты - сьцежкі,*
*Людзі - бульба, што гурбой*
*Насыпалі, каб пасадзіць у градкі.*

Прыходжу з заклікам "Паэзіі пра Мінск!" Прапаноўваю кнігу вулічных вершаў: "Верш на Ракаўскай", "Верш на Нямізе", "Верш на Замковай", "Верш на Віцебскай", "Верш на Раманаўнай Слабадзе". Уяўляю сабе, як турысты будуць замест пляну гораду насіць у разгорнутым выглядзе вершы мінскіх паэтаў пра Мінск, спыняцца і цытаваць іх з асалодай вандроўніка, што нарэшце патрапіў да мэты. Буджу Мінск і Мінскевіча. Абзываю яго Мінчук Мінскевіч. Ён сярдуе як Сярджук Сердзюкевіч і ідзе за мной у Стары горад хадою абуранага камунальніка, якога суседзі прымусілі выкінуць сьмецьце. Мы стаім пасярод восеньскай Ракаўскай. Я махаю рукамі і дзьмухаю ідэямі. Мінчук Мінскевіч адчувае сябе драўляным слупом электраперадач, на які бясьпечна садзяцца мае птушкадумкі. Імправізую:

*Па вуліцы Ракаўскай едзе арба.*
*Вязе на арбайтэн рабога раба.*
*Арба нахілілася, раб паваліўся...*

Маўчу. Крычу: "Ну, дапамагай, паэт! Каб цябе! горад стогне ад жаданьня паэзіі!"

Мінскевіч прабубніў:

*А вецер шальны з рабаціннем насіўся...*

Мы пачынаем гуляць у гарадское вершаплёцтва. Кідаю:

*Там, на вуліцы Шпалернай,*
*Дрэвы маюць...*

Ён, паэт, буркае, бы змушаны рабіць гімнастыку.

*... ліст фанэрны.*

*Я* спрабую апаэтызаваць ягоную незадаволенасць:

*Каб на розныя манэры*
*На лістовыя фанэры*
*Птушкі клеілі шпалеры.*

Мінкевіч у дадатак праскрыпеў:

*Рознакаляровыя - дубовыя, сасновыя.*

Далей - далейшае:

*На Раманскай Слабадзюзе, Рамантычнай Слабадзе*
*Вараць водар на калюзе, хлебны водар на вадзе.*
*Хто Рамана Слабадою позна ўвечары ідзе,*
*Ўвесь, апырсканы вадою пахне булкай дзе-нідзе.*

Ці то:

*Вуліца Замковая ўжо шмат гадаў няновая.*
*Там змятаюць на світанку гістарычныя астанкі.*
*На два мэтры пад зямлёй ходзіць ля старожкі вой.*
*Топча землю ўверх нагамі, сыметрычна разам з намі.*

Або:

*Кіньце позірк на Нямігу - зразумееце адно:*
*Кажуць "Вось яна, Няміга!", а Нямігі не відно.*
*Толькі ў ноч, падчас адлігі, тут зьяўляецца Няміга.*

Нашае паэтычнае матляханьне нарадзіла пару спробных мінскіх вершаў, пасьля якіх паэтычна разварушаны Мінскевіч раптам выдаў тое, што *назвалася Мінскімі санэтамі,* бо адначасова яму плённа працавалася над рэтлумачэньнем *Крымскіх санэтаў* Адама Міцкевіча.

У цыкль новых гарадзкіх санэтаў патрапілі парканы і сьмяцьцяркі зь мётламі, што стварыліся ў пачатковым узрушаным паэтычным стане. А калі ўжо выбудаваўся маэстат палацыку Вызваленьня ў санэце пра Александраўскі сквэр, мы іранічна адзначылі, что на Ракаўскім прадмесці існуе цэлая вуліца Вызваленьня, якая акурат вядзе ад піўнай рэстарацыі "Ракаўскі бровар". Колькі можна яшчэ ўсяго заўважыць і зарымаваць!

Па *Мінскіх санэтах* Мінскевіча рухаюцца сапраўдныя жыхары і кідаюць цені рэальныя будынкі, чалавечыя і цагляна-бэтонныя ўвасабленні! паэзіі нашага гораду маюць свае імёны. Паэзія пра Мінск аднаўляе настрой яго гісторыі, нібы зноў ад старых вулак да іншых абшараў Мінск пачаў жыць і пашырацца.

Вось так здараецца ў старым Менску. Проста хочацца быць адушаўлёным паэзіяй мінчуком і мінчучкай.

*Пры нагодзе Інэса Кур'ян*

# М І Н С К І Я   С А Н Э Т Ы

## I
## А КІРМАШ КАМАРОЎСКІ ЯК СТЭП

Выходджу на прасьцяг гуллівай Камароўкі,
Я сам, нібы ладзьдзя, а сьпіна - ветразь мой,
Нясе штурханьняў брыз мяне ў людзкі прыбой,
Між выспаў лавак я лявірую, нялоўкі.

Змрачнее мне ў вачах ад прапаноў абноўкі.
Гароднiна ляжыць пярэстаю гарой.
А воддаль, як маяк над пеннаю вадой,
Ільсніцца на круку бок беднае кароўкі.

Пастой! Ачуемся... Шмат што чуваць наўкруг:
Гандлюе бабка дзесь салёнымі гуркамі,
Вужаку-кілбасу вунь дзед прыдбаць нацяміў,

За выйсьцем люд жуе - там пахне шашлыкамі.
Пачуеш нават дождж, як абвастрыш свой нюх.
Тут безьліч водараў - дзе ж беларускі дух?
*9.10.2000*

## II
## ПАРК ГОРКІ, ШТЫЛЬ

Барока восені - мой улюбёны стыль
Убраньняў паркавых, калі ярчэй, іскрысьцей,
Чым дзень яшчэ ці два таму ірдзіцца лісьце,
І падае крылом, што абраніў матыль.

Заціішша восені - мой улюбёны штыль,
І нават час у ім далей ня можа плысьці,
Расталі дзеі ўсе ці адышлі кудысьці,
Нібыта на антракт спыніўся вадэвіль.

Тут неба тонкае - на дне яго вышыняў
Таіцца васьміног, што сьпіць на аблачыне,
Пакуль грамы і дождж ірвуць нутро плаціне.

А ўстане цішыня - пакіне ён пасьцель.
О думы стылыя - пахмельны карабель, -
Штосьць напяваць пачне пачуцьцяў мэнэстрэль.
*30.10.2000*

## III
## ПАРК ГОРКІ. ПАЧАТАК БУРЫ

На сьцежках паркавых завод мірсьціўся Севу,
А Жыбуль баяў нам пра ўсьмешкі мерцвякоў,
У гэты час труну сваю цягаў Вішнёў,
І Сіна забіваў раз пяты Бахарэвіч.

Тут Чулюлюндраю жахаў людзей Маскевіч,
Вальжына аб бэтон трэніравала броў,
Алена і Арцём віталі зрухароў, -
І ўсё занатаваў руплівы Барысевіч.

Зьвінеў Башураў верш, як залаты дукат,
Пакуль у піве рым сабе шукаў Туровіч.
І хоць няма яго - быў зь імі Акудовіч.

Раптоўна выйшлі ўсе з каштанавых прасад.
(Ах, там, здалёк махаў рукою Хадановіч.)

Шторм! Шторм ідзе! Сарваў падмосткавы фрэгат.
*20.11.2000*

## IV
## ДА СЬВІСЛАЧЫ

Рака дваровая, смарагдавая Сьвіслач!
На санках да цябе ляцелі мы ў сумёт,
Аднойчы тут марак ледзь не пайшоў пад лёд,
І ўратаваць змаглі дзіцячай моцай сьціслай.

Там, дзе над берагам каса вярбы навісла,
Яна любіла быць, сачыць стрыжоў палёт,
А я, кідаючы галыш у люстра вод,
Па хвалях ёй хацеў пачуцьцяў столькі выслаць!

Рака дваровая, ты крыўды не бяры,
Што скутая ў мурох твая сястра старая -
Выток жа твой бруіць, да мора парывае…

За мора ці за Буг сплылі яна, сябры,
Стагодзьдзе адышло, той не вярнуць пары.
А ты - усё жывеш, і я - не паміраю.
*5.10.2000*

## V
## МІНСК УНАЧЫ. КРОКІ

Праспэкт - тачы хрыбет. Стаю на пазванках,
Якіх не праламаць маім цяжкім абцасам,
Шклом будзе брук вішчаць пад іхным выкрутасам,
І рэха, як стылет, праб'е далёкі дах.

Цень есьць сьвятла амлет, што смажыцца ў кружках
Калюжын... Вокны сьпяць. Сьпяць жыхары. Тым часам
Мінск любіць плошчы праць і гладзіць шэрым прасам.
Ці распачне балет пазёмкі ў закутках.

Мінск падабае ноч, яна ў яго фаворы -
Увесь блішчыць, як скотч, зьбірае кроплі, зоры -
А тая наўзаем зь імглы кілім прадзе.

Кахае ноч мяне - уздыме ў жарсьцяў стромы,
Стамлёнасьцяў гарэм, палац дрымот зьвядзе,
Калі ж сон праміне - даводзіць зноў да стомы.

*11.10.2000*

## VI
## МІНСК РАНКАМ

Ноч, дзе твой абаронца? Глянь, гарыць сьвітанак -
Якому дымам сон ці малады туман.
Свой чорны парасон схіліў Мінск за паркан,
Яму на дахах сонца ўжо чаканіць ранак.

Дзень льецца па старонцы ў шчэпках брукаванак,
Сьмяцьцяркі ва ўнісон мятуць травы дыван.
І ў ложку мой палон - найлепшая зь нірван -
Хай доўжыцца бясконца... Не кранай фіранак!

Салодкаю парой забудзеш кіслы сум,
Бы зрынуў горад мой глупотнікаў і тлум, -
На вуліцах пустэча, толькі зьзяюць дрэўцы,

Трымціць лістоты рой - стаіць зялёны шум.
І вецер мне засведчыў: хвіляй той здаецца,
Што горад сьпіць, старэча, - можа не прачнецца.

*23.10.2000*

## VII
## МІНСК У БУДЗЕНЬ. 17 00

Ісьці ў пчаліным танцы ля шурпатых сьценаў
І сыпацца вугольлем за борт ваганеткі,
Расхістваць рок-н-ролам клавішы разьметкі,
Ныраць у норы станцый метрапалітэна.

Быць там, дзе ў небатканцы ўколаты антэны,
Дзе горад лега-полем затаптаў палеткі,
Дзе ледзь прыкметны Толем - вежа тэлесеткі, -
Што ловіць на абранца, блазна і шоўмэна.

Да галасных ападкаў слых даўно прывычны,
А ціхія парадкі мае двор сталічны,
Тут цень і люд зьнікае, нібы з кратак шашкі.

Час мінскі пасьпяшае, дзьмецца парай бражкі,
Насамрэч, ад пачаткаў эры гістарычнай
Тут калямбур трывае - Менск на зьмены цяжкі.
*19.10.2000*

## VIII
## АЛЯКСАНДРАЎСКІ СКВЭР. ПАНІКА

Тут любяць піва піць і я, і ты, і ўсе,
Хто любіць піва піць, хоць люд бывае коўзкі.
Трымае лебедзя маленькі Панікоўскі,
А трохі падрасьце - дык пойдзе на гусей.

Прыходзяць дзеўчыны ва ўсёй сваёй красе,
І хлопцам гэты сквэр гасьцінны і сяброўскі,
Ды сем будынінаў яму сьціскаюць косткі:
Краіны саркафаг, як слон, на пляц насеў,

Налева - портык стаў, бы працы ўвасабленне,
Вунь там была царква, цяпер - клюб ваяроў,
На аць сьветлы храм тутэйшых песьняроў,

Далей падлеткаў дом і гмах пастанаўленьняў -
Чакаюць на прыём там чараду паслоў.
Як добра, што хоць ёсьць палацык вызваленьня.
*20.11.2000*

## IX
## ПІЛІГРЫМ

Над горадам каршун - яго занёс імклівы
Паветраны струмень, і птах ледзь-ледзь крылом
Кранае чорны шпіль, ды рвецца ўверх віхром,
Дзе вецер-хмарагон, дзе пругкія парывы!

Ён іх утаймаваў і ўжо ляціць гульліва,
Кіруе свой палёт распушаным пяром
І азірае дол пад гострым кіпцюром.
Нібы цікаўны госьць, ён бачыць нашы дзівы...

Таксама, вось і я у горадзе сваім
Як быццам прыхадзень, турыст і пілігрым.
Перада мной ляжыць край родны, край знаёмы,

І разам з тым - чужы, нязносны, невядомы.
І колькі трэба шчэ прайсьці па ім, у ім,
Каб я вярнуцца змог назад, ізноў дадому.
*12.12.2000*

# МЕНСКІЯ САНЭТЫ

## I
## ЗАЧЫН

Пагібель сталася для места нараджэньнем,
Так летапісец, свой пакінуўшы расказ,
Нібыта гораду даў адліковы час
І папярэджаньне наступным пакаленням...

Зь Нямігі з той пары вады шмат уцякло,
Ня раз быў зьнішчаны - ды адраджаўся Менеск,
Бы на крыжы дарог бусьлянку зладзіў Фэнікс,
Жыхарства горада ўзяў пад сваё крыло...

Яны ж ня ведаюць пад левым стаць, пад правым.
Міжсобку сварацца - да крыўды, бойкі, сьлёз -
Хто разумней абраў, дзе выгаднейшы лёс.
А крыж прымерыўшы, жадаюць быць Варавам...

Каму зь іх дагадзіць - прамовіць "Мінск" ці "Менск"?
А Езус і Ісус - ці не адзіны сэнс?
*25.03.2002*

## II
## ВЯСНА. 1830-я - 1930-я...

*...Niech zwiastują wolność, jak żurawie wiosnę...*
*А. Міцкевіч*

Калі ідзе вясна, квітнее ў сэрцах сьвята,
І ўжо ўцякаюць прэч ільды зьмяёй пляскатай,
Пладзіцца ў лужынах цьма шэрасьці крылатай...
Глядзеце, на руку прысеў камар насаты.

Паўсюўдна вочкамі мігцяць яго сабраты,
Пляткарáць: хто, дзе, як быў, будзе вінаваты.
Адзін, вялікі франт, надзьмуты і вусаты,
Пырхнуў вышэй - узяў пагляд судзьдзі і ката -

Цень крылаў ад яго паўзе, як нерат кратаў.
А там віхляе гнюс, сьлізготны і куртаты,
Мастацтва краску ён скубе і рве заўзята.

А той - паэтам быў, кружыў-зіхцеў, стракаты!
Цяпер прыдбаў сабе бясколерныя шаты!
Чакае не вясны, а лета край зацяты.

*11.02.2002*

## III
## МЕНСКІ БРОВАР

Нам піва Фрумкіна Рахіль - ці проста Рохля -
Тут налівала шмат, і куфаль залаты
Не шкадавалі мы - праз хвілю быў пусты!
Імпэтна так пілі, каб ворагі ўсе здохлі,

Ліхія языкі каб на зямлі пасохлі!
Быў з намі Чапскі граф і Лекерты браты,
І напаўняў напой гаркавы жываты,
Каб гора зьнёс анёл ці чорт, ці можа, хохлік!

Паветра пілаваў дугой смыка скрыпач,
Устаць хацелася, пусьціцца ўскок, ускач,

Але мяшаліся ў паглядзе фэйсы, пэйсы,
Знаёмцы-сябрукі ці выхвалякі-грэйсы...

*Алівы варанай* было даволі ўсім -
Сынам Ізраілю і Ліцьвінам маім.
*7.02.2002.*

## IV
## БАЙДАРКІ

Вясло ўзьнімаю і - стралою арбалета
Байдаркі нос ляціць праз віхравы паток,
Выявы рэжучы мастоў, дамоў, аблок -
Лепш за віно п'яніць струмень відзежаў сьвету.

Прыпыніцца палёт, растануць піруэты
Запозьненых віроў, зардзее ў небе змрок,
А тыя вобразы шчэ будуць вабіць зрок,
Пакуль ліхтарняў шыхт ня кіне ў іх манэты.

І ўспыхне на вадзе, як мармуровы грот,
Як скарб, асветлены пірацкаю паходняй,
Чароўны горад-князь, мудрэц і багатыр -
Варкуе дабрабыт насельнікаў і мір...

Пара да берагу - змыкаюць кола содні.
(У люстры, ведама, усё наадварот.)
*11.04.2002.*

## V
## СЬЛЯПЫЯ МАГІЛЫ

Насеньне лепшае з жыцьцёвай сьветлай нівы
Сабранае ў жарой Малоху... Пыл пэрлін,
Узятых з мора ўцех і прац, - у змрок рыцьвін
Прасушаны на жвір вільготны і маўклівы.

Заслону забыцьця прадуць гады рупліва...
Як войска, ўсталі тут сто тысячаў хваін,
Бы варта цішыні, што грэбнем вершалін
Шумлівыя вятры сутрымвае за грывы.

Тут іншаземцы сьлёз ня могуць прыхаваць...
І вы, гаспадары, паплачце, ці ж вам сьцерці
З прасьцягу памяці разоры стольkіх сьмерцяў?

Заплачце, бо інакш драўлянай варты раць
У горад рынецца - сны вашы турбаваць,
Павекі, што ў крыві запекліся, разьдзерці!
*25. 03.2002*

**VI**
## ПАДМУРКІ РУІНАЎ

*Разбураным храмам Беларусі*

Мая рыдлёўка разам з камяком зямлі
На месцы, дзе калісьці узвышаўся храм,
Дзе людзі на паклон і суд сваім багам
З надзеямі, мальбой ці ўдзячнасцю ішлі,

Працяла чэрап. Шнары чорныя былі
На ім - лязо прыўстала непахісна там,
Здавалася, пакуту я прынёс касцям,
А выцягнуць рыдлёўку рукі не маглі -

Дрыжэлі... Чэрап вечным цемрывам вачніц
З дакорам грыз мяне: "Ня я пад караю,
А ватныя галовы цэнзарам нажніц

Раскроены - смуткуйце лепей над сабой:
Паўмовы, паўдушы дый з дробнай мараю,
І думаць вам паловай дадзена адной".
*Зіма 1991 - 5.02.2002*

## VII
## ДАРОГА НАД ЯМАЙ

***Спадарожніца:***
Даверся цішыні й малітве шчырай самай,
Якую не вучыў, якую ты ў сабе
Вось толькі што пачуў у роспачнай журбе.
Яна нас правядзе па строме чорнай ямы

І ўзнімецца вышэй да найсвяцейшай брамы,
Каб несьці супакой ахвярам… і табе.
Ты - зьніч між радакоў, і сэрца звонам б'е
Па тых, каму няма ні помнікаў, ні храмаў…

***Пілігрым*** *(пасьля паўзы):*
Нябёсы чыстыя, - забыты стрэлы й дым,
І па старых кладах праходзяць аўтатрасы.
А мы, як і дзяды, над прорваю стаім.

Стаім бяз голасу і нават без галасу,
У думках беражэм наказы маладым
І песьцім свой спадзеў на лігасьцівасьць часу.
*2.05.2002*

## VIII
## РАКАЎСКАЕ ПРАДМЕСЦЕ

***Спадарожніца:***
На ракаўскім прадмесьці хлебны пах духмяны,
Нібы ў празрыстым цесьце - не ў паветры - йдзеш,
І хай ліхія думкі ты ў сабе нясеш,
У гэтакіх варунках зробісься рахманы.

Адчуеш загаеньне ўсіх душэўных ранаў,
Турботы і сумненьні зьвязнуць, што кулеш,
З настроем пекным, сьвежым вулкаю брыдзеш...
Але час хуткабежны - ну, якія пляны?

***Пілігрым:***
О, пляны трубадураў! - зьведаць пік жыцьця,
Знайсьці гняздо віхураў зь дзюбай навальніцы,
Адкрыць вулькан свабоды - маю шмат амбіцый!
Імчу, лячу... Той водар не па мне! Хаця...

Вось лаўка для спачынку - рвем пакецік кавы,
(Прысядзем на хвілінку - пачакаюць справы.
*7.04.2002*

## IX
## НОВАБУДОЎЛЯ

*Вось сымбаль твой забыты, краю родны!*
*М. Багдановіч*

Хоць збожжа ссохлае было - красуе поле!
Вітаюць каласы мільёнамі галоў!
Хай прыхадні кладуць струпы сваіх сьлядоў -
Яны ўздымаюцца - бо маюць сілу й волю!..

Дзе ногі не прайшлі - прабіцца мкнуць на коле!
Ламаюць, хто ўстае, зьмінаюць зноў і зноў,
Так па палетках госьць гасьцінец свой правёў.
Ды засталася нам зярнятаў жменя ў доле.

І сыплецца на іх разьбіты брук, асфальт,
Нясьпешлівы каток пласт за пластом трамбуе...
Маленькі парастак асфальту моц руйнуе!

І ўжо ура-аўрал - будуюць магістраль,
"Белазы" навязьлі бэтону сотні тонаў...
Маленькі парастак руйнуе моц батону!
*восень 1990 -8.02.2002*

# У Р Ы В А К

**Гэты ўрывак беларусам**
**па-за Беларуссю**
**прысвячае**

***Аўтар***

## АУ, ДАХ!

Крыштальнай раніцой
з-пад сонечных павек,
як плынь, зіхціць праспэкт,
пад залатой зарой,

адсюль жыцьця напой -
бяжыць да розных рэк,
вось так на ўпын ці зьдзек,
йшоў не адзін герой

люблю глядзець на горад,
з вышыняў стромых гмахаў,
дамы блiскочуць бляхай,
нібыта хвалі мора.

дождж мкне ў зямныя поры,
па чорным, белым шляху,
на славу ці на п л а х у
ў далёкія прасторы...

Сыноў дае жанкам анёлак у сьлязах,
Ніл сіні дзеліць іх па веры й паняверцы,
яны, сыходзячы, вяртаюць страх ці прах -
- чужынцы родныя... Ау, ня зьехаў дах?..
..........................................
І хоць на ўзвышшы Менск -
зьбірае ўсё, як сэрца.

*2001*

## ТЛУМАЧЭННІ АЎТАРА

* * *

Перад чытачом ня проста санэты, натхнёныя малюнкамі беларускае сталіцы, але творы, большасць зь якіх пэўнымі асацыяцыямі і вобразамі абапіраюцца на знакамітыя *Крымскія санэты* Адама Міцкевіча. Не выпадкова *Мінскіх* і *Менскіх санэтаў* па дзевяць - роўна палова ад колькасьці *Крымскіх*.

*Мінскія* і *Менскія санэты* створаны, каб перадаць Менскі *genius loci* - дух горада на пераломе стагодзьдзяў і тысячагодзьдзяў.

Паводле формы большасць прадстаўленых твораў адпавядае прынцыпам сыляба-танічнага альбо сылябічнага санэта, аднак V, VI і VII зь *Мінскіх* і VIII зь *Менскіх* зьяўляюцца гіпэрсанэтамі, дзе рымуецца і цэзура (у дадзеным выпадку яна можа быць як мужчынскай, так і жаночай).

### МІНСКІЯ САНЭТЫ

III. ПАРК ГОРКІ. ПАЧАТАК БУРЫ

Санэт прысвечаны выступленням удзельнікаў паэтычна-мастацкага руху Бум-Бам-Літ, які, па ацэнках сучаснікаў, сваімі эксцэнтрычнымі творамі і імпрэзамі, насамрэч узьняў аБУРэньне ў беларускіх літаратурных колах.

Тэатралізаваныя паэтычныя чытаньні часта адбываліся ў Мінску ў парку імя М. Горкага на драўлянай сцэне-карабельчыку ў другой палове 90-х XX стагодзьдзя.

*Сева* - Сева Гарачка - паэт.

*Жыбуль* - Віктар Жыбуль - паэт.

*Вішнёў* - Зьміцер Вішнёў - паэт, празаік, пэрформэр, мастак.

*Сін* - Ільля Сін - паэт, празаік, пэрформэр

*Бахарэвіч* - Альгерд Бахарэвіч - паэт і празаік, рок-музыкант.

*Вальжына* - Вальжына Морт - паэтка і празаік.

*Алена* - Алена Кіеня - паэтка.

*Арцём* - Арцём Кавалеўскі - паэт.

*Барысевіч* - Юрась Барысевіч - філёзаф, мастацтвазнаўца, тэарэтык Бум-Бам-Літа.

*Батура* - Міхась Башура - паэт.

*Туровіч* - Алесь Туровіч - паэт, філёзаф, тэарэтык літаратуры.

*Акудовіч* - Валянцін Акудовіч - філёзаф, культуроляг, тэарэтык Бум-Бам-Літа.

*Хадановіч* - Андрэй Хадановіч - паэт, перакладчык, бард, літаратуразнаўца.

У санэце выкарыстаны алюзіі на творы і дзеі бум-бам-літаўцаў і іх паплечнікаў.

IV. ДА СЬВІСЛАЧЫ

*... Што скутая ў мурох твая сястра старая...* - Маецца на ўвазе рака Няміга, якая цяпер працякае па бэтонных трубах пад аднайменнай вуліцай беларускае сталіцы.

VIII. АЛЯКСАНДРАЎСКІ СКВЭР. ПАНІКА

*Паніка* - слэнгавая назва Аляксандраўскага сквэра.

*... Трымае лебедзя маленькі Панікоўскі...* – у Аляксандраўскім сквэры знаходзіцца вядомы фантан "Хлопчык зь лебедзем", якога мясцовыя гостраловы ахрэсьцілі "Панікоўскім у маленстве", у гонар

вядомага пэрсанажа рамана І. Ільфа і Я. Пятрова "Залаты цялок".

*...Ды сем будынінаў яму сьціскаюць косткі...*

У санэце апісваюцца бліжэйшыя да сквэру будынкі: Палац Рэспублікі, Палац прафсаюзаў, акруговы Дом афіцэраў, тэатр імя Янкі Купалы, Дом маладзёвых арганізацый (былы будынак ЦК ЛКСМБ) і Палац Прэзідэнта (былы будынак ЦК КПБ); а таксама выкарыстоўваецца алюзія да мінскага гарадскога паданьня пра тое, як адзін памешчык не заплаціў архітэктару за працу над яго сядзібаю. Тады архітэктар пабудаваў у Аляксандраўскім сквэры грамадскую прыбіральню – дакладную копію таго сядзібнага дому.

*Вунь там была царква, цяпер - клюб ваяроў...*

Побач зь месцам, дзе цяпер знаходзіцца акруговы Дом афіцэраў, раней стаяў Архірэйскі дом і Пакроўская царква. У 1937 годзе яны былі часткова разбураныя, часткова перабудаваныя архітэктарам І.Лангбардам для Дома Чырвонай Арміі (цяперашні акруговы Дом афіцэраў).

## МЕНСКІЯ САНЭТЫ

### І. ЗАЧЫН

*...Пагібель сталася для места нараджэньнем...*

У першым пісьмовым упаміне пра Менск, зьмешчаным у "Аповесці мінулых гадоў", гаворыцца пра захоп і зруйнаваньне горада дружынай паўднёва-рускіх князёў Яраславічаў у 1067 годзе. Гэтая ж дата лічыцца афіцыйнай датай нараджэньня горада.

II ВЯСНА. 1830-я - 1930-я

Эпіграф узяты зь верша А. Міцкевіча *Да прыяцеляў Маскалёў,* што выступае ў якасьці заключнага ўрыўка да паэмы *Дзяды.* У даслоўным перакладзе эпіграф гучыць так:

*Няхай абверцяць свабоду, як журавы вясну...*

III. МЕНСКІ БРОВАР

*Менскі бровар* - даволі знаная піўнуха пры бровары "Аліварыя". Рахіль Фрумкіна, граф Чапскі і браты Лекерты у розныя гады былі ўладальнікамі гэтага бровара.

*Грэйс* - шалапут, прайдзісьвет, падступнік... - слова, пачутае ў вёсцы Малыя Аўцюкі пад час фэстывалю сатыры і гумару

V. СЬЛЯПЫЯ МАГІЛЫ

Санэт прысвечаны ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Апісваецца ўрочышча Курапаты, што на поўначы Менску, дзе растраляны ад 100 да 250 тысяч нявінных людзей.

*...Як войска, ўсталі тут сто тысячаў хваін...*

Каб схаваць сваё злачынства, НКУСаўцы высаджвалі над месцам масавага пахаваньня дрэвы.

Цяпер Курапаты - гэта лес.

VII. ДАРОГА НАД ЯМАЙ

*Яма* - месца масавага растрэлу фашыстамі габрэяў Менскага гета ў часы Другой сусьветнай вайны. Нядаўна там адкрыты мэмарыяльны комплекс - чарга змучаных, зьнясіленых людзей спускаецца па зрыву ў яму.

VIII. РАКАЎСКАЕ ПРАДМЕСЬЦЕ

На ракаўскім прадмесці знаходзіцца найстарэйшая ў Менску пякарня. Калі ў ёй пякуць хлеб, то па ўсім прадмесьці разносіцца духмяны пах сьвежых букатак.

**УРЫВАК**

АУ, ДАХ!

Гэта недапісаны санэт. Аднак твор уключаны ў кнігу, паколькі сваёй тэматыкай прызамыкае цыкль.

*... Па чорным, белым шляху...* Беларусь і яе сталіца ляжыць якраз на водападзеле рэк Балтыйскага і Чарнаморскага басэйнаў. *Балтыйскае* – у перакладзе з балцкіх моваў азначае белае.

*... Ніл сіні дзеліць іх...* Існуе прыгожая паэтычна-містычная тэорыя, што рака Ніл падзяляе нашую плянэту на два сьветы - Заходні і Ўсходні, на рознае стаўленьне людзей да жыцьця і сьмерці. Даўгата, на якой ляжыць Ніл, амаль роўна на дзьве паловы падзяляе беларускія землі. Апрача таго, паводле той самай тэорыі, Дняпро ёсьць эўрапейскім адлюстраваньнем Ніла. Менск рассякае рака Свіслач, якая нясе свае воды менавіта да Дняпра.

*... Сыноў дае жанкам анёлак у сьлязах* – маецца на ўвазе статуя анёлка на Востраве сьлёз. У Менску існуе звычай - каб у сям'і ўсё было добра, каб былі здаровыя і шчаслівыя дзеці, нявеста ў дзень вясельля павінна дакрануцца "там" у анёлка на Востраве сьлёз.

*...І хоць на ўзвышшы Менск...* - Менск стаіць на Менскім узвышшы, што пэўным чынам нагадвае дах Беларусі.

# СЕРЖУ МІНСКЕВІЧУ ~ ПОМНІКУ Й ЧАЛАВЕКУ
***(замест пасьлямовы)***

Мабыць, кожны напраўду амбітны літаратар сьпіць і сьніць, калі ж яго культурныя заслугі перад айчынаю будуць ацэненыя й ушанаваныя. Калі зьявіцца мэмарыяльная дошка зь яго выяваю, калі вуліцу ў родным горадзе пераназавуць у ягоны гонар, а шчэ лепш – калі пераназавуць сам гэты горад. Наш літаратар выявіўся ня менш амбітным, але ж прагматычнейшым. Ён ня стаў чакаць, покуль пераймянуюць родны Мінск, а сам перайменаваў сябе, назваўшыся Мінскевічам. Калі-небудзь, праз стагодзьдзі, хто стане разьбірацца, якое імя зьвілася ў сьвет раней? І толькі адна драбніца турбуе: а раптам пераможа законны гістарычны назоў "Менск"? Што тады? Пераймяноўвацца самому? Але ж варыянт "Мянскевіч" яўна саступае ў мілагучнасці. Дый губляецца сугучнасць зь імем літаратурнага папярэдніка - Адама Міцкевіча.

Выбіраючы імя дзіцёнку, нармальныя бацькі звычайна зьвяраюцца зь сьвяткамі й даюць імя адпаведнага сьвятога - каб ахоўваў і спрыяў у жыцьці. Выбраўшы такі псэўданім, Мінскевіч самохаць абраў сабе нябеснага патрона. Зорка геніяльнага рамантыка сьвеціць Сержу падарожным сьвятлом, а вялікі аўтарытэт папярэдніка празрыста намякае, што й наступнік - чалавек у літаратуры невыпадковы.

Наагул стасункі Мінскевіча з папярэдняй традыцыяй пазбаўленыя тыповага для нашай маладой літаратуры налёту песімізму й уласнай непаўнавартасьці. Жадаючы ашчасьлівіць сьвет сваімі ўрачыстымі санэтамі, паэт дазнаецца, што перад ім ужо

быў Міцкевіч з *Крымскімі санэтамі.* Які ўдар ад клясыка! Але талерантны постмадэрніст заўсёды гатовы падставіць і другую шчаку - і пасьлядоўна, твор за творам, перапісвае Міцкевіча, робячы папраўку на новую эпоху й менскую гарадзкую тамаграфію. Сучасная эстэтыка дыктуе новыя правілы гульні: цяпер літаратурны плягіят не караецца, а, наадварот, горача вітаецца. Цытаты, стылізацыі, алюзіі й рэмінісцэнцыі - сучасьней можа быць хіба толькі рэканструкцыя Гамэра! І рамантычныя топасы ажываюць у нас на вачах, увекавечваючы родны горад. Хто пасьля Сержавых санэтаў наважыцца сказаць, што Менск - гэта горад, якога няма?

Так, сучасны паэт бачыць абмежаванасьць уласных магчымасцяў, але ня робіць з гэтага трагедыі. Зусім як у вядомым афарызьме, ён мог бы параўнаць сябе з карлікамі, што стаяць на плячах гігантаў - і таму бачаць далей. Паэту ўласцівыя іронія й самаіронія, таму зь цьвярозага погляду на рэальнасьць не вынікае ніякай мізантропіі. Ён разумее сьціплае месца паэта ў сёньняшнім антытэтычным сьвеце. Яго герой чытае свае вершы на сметніку, і гэта не павінна зьдзіўляць, бо ў Менску, калі верыць аўтару, на кожным сьметніку сядзіць па паэту. "Грамадзкія адкіды", - сказаў бы скептык. "Дух горада, яго непаўторны твар", - адказаў бы наш аўтар.

Эканомячы айчыннай мэталюргіі медзь і бронзу, сціплы Серж сам выконвае ролю ўласнага помніка, шырока разьвёўшы ногі й высока ўзьняўшы голаў. І гэтак мусіць стаяць, і будзе стаяць, "і прастаіць яшчэ тысячу лет". І ўдзячныя "таварышы нашчадкі", для якіх цяперашнія экспэрымэнтатары

ў паэзіі з часам стануцца адназначнаю кляёнкай, якія будуць цытаваць Сержа Міцкевіча, як ён сёньня цытуе аўтара перакладзеных ім жа *Дзядоў,* пабачаць гэты манумэнт і адчуюць радасьць пазнаваньня. Глядзеце, гэта ён, помнік і чалавек, вечны юнак беларускай паэзіі, *genius loci* роднага горада, хадзячы доказ пераемнасці культуры, бяздомны паэта, о крый яго, Божа!

*Андрэй Хадановіч*

Паводле лекцыі "Апошняе слова: Паказальны працэс над маладой беларускай паэзіяй"

# З М Е С Т

*Інэса Кур'ян* ДУХ ГОРАДУ НІБЫ ЧАКАЎ ЗА РОГАМ… *(ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ)*

**М І Н С К І Я   С А Н Э Т Ы**

I. А КІРМАШ КАМАРОЎСКІ ЯК СТЭП
II. ПАРК ГОРКІ. ШТЫЛЬ
III. ПАРК ГОРКІ. ПАЧАТАК БУРЫ
IV. ДА СВІСЛАЧЫ
V. МІНСК УНАЧЫ. КРОКІ
VI. МІНСК РАНКАМ
VII. МІНСК У БУДЗЕНЬ. 17.00
VIII. АЛЯКСАНДРАЎСКІ СКВАР. ПАНІКА
IX. ПІЛІГРЫМ

**М Е Н С К І Я   С А Н Э Т Ы**

I. ЗАЧЫН
II. ВЯСНА. 1830-Я - 1930-Я
III. МЕНСКІ БРОВАР
IV. БАЙДАРКІ
V. СЬЛЯПЫЯ МАГІЛЫ
VI. ПАДМУРКІ РУІНАЎ
VII. ДАРОГА НАД ЯМАЙ
VIII. РАКАЎСКАЕ ПРАДМЕСЦЕ
IX. НОВАБУДОЎЛЯ

**У Р Ы В А К**

АУ, ДАХ!
ТЛУМАЧЭНЬНІ АЎТАРА
***АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ***
СЕРЖУ МІНСКЕВІЧУ - ПОМНІКУ Й ЧАЛАВЕКУ
*(ЗАМЕСТ ПАСЛЯМОВЫ)*